# Чым адрозніваюцца?

Улетку, калі былі суцэльныя шчаслівыя канікулы, мала хто з нас лічыў дні ды заўважаў, чым адрозніваецца нядзеля ад панядзелка альбо серады. Цяпер жа самы час задумацца. Дык чым? Ці толькі тым, што ў нядзелю не трэба ісці ў школу? Што асаблівага для нас у гэты дзень?

Мая хросная любіць напяваць такую песеньку:

*Дзякуй, Божа наш, Ойча,*
*за ўсю Тваю сядміцу,*
*за шасцёра братоў і сясцёр*
*працавітых,*
*за нядзельку святую,*
*ласкавую, светлую,*
*што праменіцца,*
*ззяе і свеціцца*
*для нас, Тваіх дзетак,*
*Айцоўскай Тваёю*
*святою прысутнасцю.*

Падазраю, што яна сама яе прыдумала, хоць і не прызнаецца, бо вельмі ж любіць з маленства святую нядзельку, якую, дарэчы, мы часта святкуем разам з ёю. Радасна й светла! А вы, сябры, як святкуеце нядзелю і іншыя святы?

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

*Малюнак Паліны Шаламенцавай, 14 гадоў.*








# Цікавы сон

— Ну, прайшло свята! Хоць адпачну цяпер трохі... — уздыхнула мама і выцерла лоб рукой. Праўда, на кухні яе яшчэ чакала ладная гара бруднага посуду ды розных акрайцаў, рэштkaў салатак, рулетаў, піpaгоў. Усё гэта трэба неяк прывесці да парадку...

Янка ж, імяніннік, ляжаў на баку ды адно аддыхваўся, бо апошняе печыва яўна было лішнім. Але як было не пакаштаваць, калі ўсе каштавалі?



— Я ж казаў, каб менш на гэты раз гатавалі, — прабурчэў невядома каму тата.

Яму ніхто нічога не адказаў. А што ўжо казаць альбо, як кажуць, кулакамі махаць пасля бойкі, гэта значыць, пасля гасцінаў-імянінаў? Янка ведаў, што, калі на добрае, то трэба было б дапамагчы маме, але дзе ўзяць сілаў? Думаў-маракаваў і так, і гэтак, пакуль не задрамаў — яму нават не перашкаджалі галы «Батэ», якія тата гучна каментаваў, вітаў ды яшчэ гучней наракаў, што іх мала. Янку ж сніўся лес, у які яны летась пасля ягоных імянінаў планавалі пайсці ўсёй сям'ёй ды Янкавых сяброў запрасіць. Лес, вогнішча, печаная бульба ды кавалачкі смажаніны на прутках...

Летась Янку пасля імянінаў сніўся гэткі ж самы сон. І пазалетась таксама. Цікава, чаму раз на год ён абавязкова яму сніцца?

*А. Барткевіч*

*Малюнак Аляксандры Хамяковай, 14 гадоў.*

*«Маленькі рыцар Беззаганнай». № 3 (65)/2014 г.*
*Часопіс для дзяцей. Выдаецца на ахвяраванні вернікаў.*
*Заснавальнік: Мінска-Магілёўская архідыяцэзія Рыма-каталіцкага Касцёла ў РБ.*
*220030, г. Мінск, вул. Рэвалюцыйная, 1а.*
*Часопіс зарэгістраваны ў Дзяржаўным рэестры сродкаў масавай інфармацыі за №904.*
*Касцёльны кансультант — кс. Дзмітрый Пухальскі, рэдактар — Ірына Францаўна Жарнасек,*
*мастак — Галіна Хінка-Янушкевіч, камп'ютарная вёрстка — Алег Глекаў.*
***Адрас для лістоў:** а/с 101, 220002 г. Мінск-2;* **e-mail:** *m.rycar@yandex.by*
Фармат 70Х90 1/16. Ум. друк. арк. 1,05. Наклад 3 500 экз. Заказ № 7549.
Падпісана да друку 3.11.2014 г. Надрукавана ў УПП «Віцебская абласная друкарня»
ЛП 02330/0494165 ад 03.04.2009 г., вул. Шчарбакова-Набярэжная, 4. 210015, г. Віцебск.

# Радасць — у малюнку





Чаму некаторыя людзі любяць маляваць? І чаму ў адных гэта атрымліваецца прыгожа, а ў іншых не вельмі? Заўсёды вялікая таямніца — талент, які чалавеку дае Пан Бог. Да таго ж, адны людзі вельмі даражаць сваім талентам, развіваюць яго, а іншыя лянуюцца працаваць. Творчая праца — гэта вельмі сур'ёзна і адказна, бо мастацкія творы часта адкрываюць нам вочы на тое хараство, якое ёсць вакол нас. Можна сказаць, што яны вучаць нас бачыць, слухаць, заўважаць красу навокал.

Вера Варанко з Віцебска вельмі любіць маляваць і ляпіць з пластыліну. Аднойчы, вярнуўшыся з касцёла, яна села за працу і з-пад яе рук з'явіўся гэты цікавы твор — «Малітва праслаўлення». Чым не праца на конкурс нашага часопіса? Згадзіцеся, вельмі прыгожы твор! Аднойчы ж пад рукамі не было ні паперы, ні дошкі, а маляваць вельмі хацелася. Дык і ператварыліся Верыны ўласныя ступні ў вясёлыя карцінкі. На гэты раз, відаць, без дапамогі дарослых не абышлося.

*Аленка-майстрыха*





# Малітва любові

Езу! Ты вельмі добры да ўсіх.
Ты дапамагаеш усім.
Нават тым, хто зрабіў вельмі шмат памылак.
І Ты чакаеш ад іх навяртання.
Езу, ты любіш усіх.



*Кацярына Навумчык, г.п. Івянец.*

I
Не май іншых багоў, апроч Мяне

II
Не ўжывай імя Пана Бога твайго дарэмна

III
Памятай дзень святы святкаваць



# Урокі айца Віталія

Раніцай у нядзелю Юра прачнуўся з добрым настроем, бо, само сабой зразумела, пачынаецца выхадны дзень і ў школу не трэба ісці. Лежачы ў ложку, ён думаў пра тое, што сёння можна пайсці да Дзімы і пагуляць з ім у камп'ютарныя гульні...

— Юра, уставай, хадзі снедаць, — данеслася раптам з суседняга пакою, — гэта клікала яго мама.

Аднак пасля снядання Юра не зрабіў усяго таго, пра што марыў раніцай. Ён уключыў тэлевізар і пачаў глядзець мультфільмы. Неўзабаве Юру зноў пачала клікаць мама:

— Юра, збірайся — мы ідзем у касцёл.

— Мам, мне трэба дагледзець серыю, — занудзіў Юра.

Праз дзесяць хвілін мама зноў паклікала яго.

— Ай, мам, я сёння не пайду ў касцёл! — раптам выпаліў Юра.

Мама нічога не адказала. Яна яшчэ некалькі хвілінаў стаяла каля адчыненых дзвярэй і глядзела на Юру, які не мог адарвацца ад тэлевізара. Хлопчык адчуваў, што маці глядзіць на яго, і баяўся азірнуцца.

Неўзабаве Юра пачуў, як зачыніліся дзверы, і зразумеў, што маці пайшла адна. Цяпер ён мог спакойна глядзець тэлевізар далей. Аднак штосьці непакоіла Юру. Яму прыгадаліся словы ксяндза Андрэя, калі ён вучыў іх на занятках: «Памятайце, у нядзелю і іншыя ўрачыстасці мы абавязаны ісці ў касцёл. Але гэта не проста абавязак, а запрашэнне Пана Езуса. Ён вельмі вас чакае». Дык атрымліваецца, Юра сёння самому Езусу адмовіў у сустрэчы? Хлопчык падхапіўся і пабег даганяць маму...

Дарагія сябры! У трэцяй запаведзі Бог заклікае нас не забывацца пра Яго запрашэнне і абавязкова знаходзіць час на сустрэчу з Ім у святой Імшы.

*Айцец Віталій Даніловіч, марыянін.*

IV
Шануй бацьку свайго і маці сваю

V
Не забівай



*Нядзеля — святочны і радасны дзень нават тады, калі за вакном дождж альбо снег. Чым мы займаемся ў нядзелю? Як праводзім яе?*



* Нядзеля — гэта дзень, у які ўваскрос Езус Хрыстус, таму яго трэба прысвячаць Богу: хадзіць у касцёл, наведваць хворых сяброў, рабіць іншыя добрыя справы. І трэба ва ўсім саступаць адзін аднаму. *Дарына Гарох, 7 гадоў, г. Масты.*



* Калі Пан Бог ствараў наш свет, то Ён на сёмы дзень адпачываў, таму і мы ніколі не працуем. Мы ходзім у госці да Езуса ў касцёл. У нядзелю мы заўсёды весела адпачываем. *Соня Саентава, 8 гадоў, г. Масты.*



* У нядзелю і абавязкова ў іншыя святочныя дні мы заўсёды ходзім у касцёл, каб пабыць разам з Богам і падзяліцца гэтай радасцю з іншымі людзьмі. *Валерыя Маркевіч, 9 гадоў, г. Масты.*



* Нядзеля — гэта свята, бо ў гэты дзень уваскрос Езус. Таму нядзелю трэба ўшаноўваць малітвай, удзелам у святой Імшы. *Паліна Нагавонская, 7 гадоў, г.п. Рось.*



* У гэты дзень Езус перамог грэх, збавіў нас. Мы павінны быць удзячныя Яму. Ён — самы лепшы наш сябар. *Ліза Нагавонская, 10 гадоў, г.п. Рось.*



* Нядзеля — найважнейшы дзень усяго тыдня, таму мы святкуем яго усёй сям'ёй разам. Уся наша вялікая сям'я ідзе спачатку ў касцёл, а потым мы ўсе разам абедаем і адпачываем. *Аляксандра Гудошнікава, 10 гадоў, г. Свіслач.*

*Падрыхтавала Вольга Саентава.*

*Так адказалі на пытанне пра нядзелю нашы сябры з Гарадзеншчыны. Дзякуем ім за адказы і працягваем руку на далейшае сяброўства. Дасылайце нам свае здымкі, лісты, усё, чым вы захочаце падзяліцца з вашымі равеснікамі з іншых рэгіёнаў нашай Бацькаўшчыны. Кожны з вас можа стаць пастаянным чытачом і адначасна аўтарам часопіса «Маленькі рыцар Беззаганнай».*

**X**
**Не пажадай нічога, што належыць бліжняму твайму**

**IX**
**Не пажадай жонкі бліжняга твайго**

**VIII**
**Не сведчы фальшыва супраць бліжняга твайго**

**VI**
**Не чужалож**

**VII**
**Не крадзі**



*Нашы равеснікі ў свеце*

# ТЫ МОЛІШСЯ ЗА ІХ?

Гэта не надта лёгка – думаць пра тых, каго не ведаеш, каго ніколі не бачыў. У свеце шмат нашых равеснікаў, якіх мы, магчыма, ніколі не сустрэнем. Але ж гэта не так важна! Дастаткова, што мы ведаем – яны ёсць! І многія з іх церпяць нейкую бяду ў гэтую самую хвіліну.

Такіх дзяцей шмат цяпер у Сірыі і Іраку, у Палестыне і Ізраілі, у Афрыцы і ва Украіне. Усюды, дзе ідзе вайна, дзеці таксама ёсць на гэтай вайне. Усюды, дзе шалее эпідэмія страшнай хваробы Эболы, дзеці таксама знаходзяцца ў небяспецы. Усюды, дзе страшна, дзецям таксама вельмі страшна. А можа, ім яшчэ цяжэй за дарослых. Бо яны – дзеці.

Сябры! Не забывайма маліцца за нашых равеснікаў у свеце! Маліцеся ў сваіх сем'ях. Маліцеся на сумесных сустрэчах у вашых парафіях. Прапануйце такую малітву і дзецям, і дарослым. Прасіце Бога аберагчы вашых равеснікаў. Не заставайцеся абыякавымі да лёсаў тых, каму ў гэтыя дні страшна, няўтульна, галадна і холадна.






І не стамляйцеся, сябры, дзякаваць Пану Богу за тое, што мы не церпім усяго гэтага!

Дарагі дружа! Калі ты адгукнуўся на гэты мой заклік, напішы ў часопіс. Так мы адчуем плячо адзін аднаго. Не лянуйся: пішы пра тое, што думаеш. Пра тое, чаго жадаеш сваім равеснікам. Чаго просіш у Бога для іх...

*Маленькі рыцар Беззаганнай*



Ксёндз Ян Твардоўскі

# КАВАЛАК НЕБА

Падчас кожнай Імшы перад святой Камуніяй я на момант падскокваю ад радасці, як хлопчык, што першы год ходзіць у дзіцячы садок, і кажу:

— Перадайце адзін аднаму знак супакою.

Што гэта значыць?

Хтосьці скажа:

— Зноў чарговыя цяжкія словы для малечы!

Тым часам гэта вельмі проста: усміхніцеся адзін аднаму, падайце адзін аднаму рукі ў знак згоды, не гневайцеся адны на адных!

Калі вы падчас святой Імшы пастановіце, што будзеце лепшыя, то, вяртаючыся з касцёла, прынясеце дадому кавалак неба, нават калі будзе ліць дождж.



*З кнігі: Jan Twardowski «Od ucha do ucha», wydawnictwo Święty Wojciech, 2013.*
*Пераклад з польскай Ганны Шаўчэнка.*
*Мастак Марцін Стшэмбаш.*





## Старонка «божых каровак»





# У сонечнай Італіі

Прывітанне, мае дарагія сябры! Як жа прыемна пасля летніх вакацый зноў сустрэцца з вамі на нашай старонцы! Не магла дачакацца нашай сустрэчы — так хацелася вам распавесці пра сваё незвычайнае падарожжа.

А было гэта напрыканцы жніўня. Уявіце сабе, мне пашчасціла злётаць ажно ў Італію! Я там трошкі пажыла ў італьянскім лесе. А гэта ж, самі разумееце, новыя дрэвы, новыя кветкі, расліны!.. Вельмі прыгожа! Той лес расце на ўзгорках, таму дзеці,







якія не сябруюць з фізкультурай, маглі й прытаміцца: не так гэта проста — зранку да вечара гойсаць уверх-уніз. Але «божым кароўкам» гэта не цяжка — мы ж натрэніраваныя!

Найбольш мне спадабалася ў гэтай ванроўцы тое, што я пазнаёмілася і пасябравала з ляснымі жыхарамі той мясціны, дзе я спынялася, і з іншымі «божымі кароўкамі». А вось і некалькі фотаздымакаў з майго падарожжа.





# ДЛЯ КЕМЛІВЫХ

Знайдзі на гэтым малюнку 20 рэчаў, пра якія згадваецца ў Евангеллі.

**Для падказкі**: Лк 3, 9; Лк 4,17; Лк 9,3; Лк 9,62; Лк 11,52; Лк 15,22; Ян 13,4; Мц 3,12; Мц 4,22; Мц 5,15; Мц 10,34; Мц 11,17; Мц 14,11; Мц 19,24; Мц 20,22; Мц 25,1; Мк 4,29; Мк 4,38; Мк 14,3.



*...з нябачнага ўтварылася бачнае.*
Габр 11, 3б

Ірына ЖАРНАСЕК

# Таямніцы сажалкі

— «Ваша ягамосць!» Мы прынеслі дары для вашых «падданых»! — гукнуў Цімка і скочыў на масток.

Вялікая жаба, яна ж і «ягамосць» не падала ні гуку, адно лыпала вачыма ў зарасніку сабельніку. Маўчанне — знак згоды, і ў сажалку плёхнуўся кусанік хлеба.

— Дай мне! Ну Цімка, ты, як заўсёды, усё сам, — зачасціла сястра Каця і таксама скочыла на масток. Ад кавалкаў па вадзе хутка пабеглі кругі, плёхнула раз, другі і адтуль даляцела: цёх-цёх-цёх...

Гэта пачалося з вясны. Аднойчы, ад'язджаючы з лецішча, дзеці паклалі колькі кавалкаў хлеба, што засталіся ад абеду, на пожню — птушкам, якія потым павінны накарміць імі сваіх птушанят. Па сцежцы, абапіраючыся на кульбу, ішла суседка, баба Дарота, ды пачала абурацца, маўляў, толькі бязбожнікі хлебам раскідваюцца. Птушкам? Няхай чарвячкоў ды кузурак з яблынь збіраюць, а вось хлебныя скарынкі ды крошкі — добры наедак для насельнікаў сажалкі.

— А ў нашай сажалцы адны жабы! — гукнуў Цімка. — Мы з татам нічога не злавілі!

Бабуля Дарота засмяялася:

— То можа са мной падзеліцеся, а то я малавата насушыла рыбкам.

Каця вобмігам выскачыла з-за куста язміну ды сабрала рэшткі хлебных кавалкаў. Бабуля пайшла, і праз колькі хвілінаў дзеці пачулі яе ласкавы голас: «Рыбкі мае, рыбкі... Плывіце сюды, мае слаўныя...»

З таго дня сажалка ператварылася для Цімкі з Кацяй у воднае каралеўства, а вялікая прыгожая жаба (ёсць і такія!) светла-карычневай





афарбоўкі з белымі плямкамі — у «каралеву», а тыя істоты, што шкуматалі раскіданыя па сажалцы скарынкі, — у яе «падданых». Праўда, з гэтымі «падданымі» атрымалася загадка. Дзеці колькі дзён не маглі зразумець, хто яны на самай справе: рыбы, ці жабы? Пытанне вырашыў сусед, заядлы рыбак дзядзька Шурка. Ён патлумачыў, што жаба ўвогуле не можа есці нічога, што не рухаецца — вочы ў яе, аказваецца, неякія асаблівыя, таму яна найчасцей хапае толькі тое, што ляціць. Каця шырока расплюшчыла вочы:

— Дзе ж яна набярэцца столькі летуноў?

— Го! Хіба мала над сажалкай жамяры?

— Ой, шмат! — пачаў скрэбці свае рукі-ногі Цімка. — Як не намажашся крэмам... Але калі і ў нас рыба, то чаму мы не бачым яе хрыбтоў?

Дзядзька Шура прымружыў вока:

— О-о, у сажалцы сваё вельмі цікавае жыццё!..

Каця раскрыла рот, і брат папярэдзіў: «Камара праглынеш!».

З таго часу, збіраючыся на лецішча, дзеці прасілі бацькоў купіць яшчэ й манкі, бо рэшткі гэтай кашы водныя насельнікі таксама латашылі — толькі дай. Латашыць то латашылі, а самі не паказваліся...

—Ну хоць бы разок убачыць, каго мы кормім, — бедавала Каця, падкідваючы ў «каралеўства» чарговыя кавалкі. Ды аднойчы сталася! Каця з Цімкам прыбеглі на масток не ранкам альбо ўвечары, як звычайна, але апоўдні. Каця разглядвала водарасці, што калыхаліся сабе паціху ў вадзе.

— Цімка! А цяпер жа, зірні, тут усё відаць!

Дзяўчынка кінула кавалак хлеба, і дзеці сцішылі дыханне.

— «Каралева» ім, мабыць, не дазволіць... — шапнула Каця.





Ды «каралева» спакойна сабе драмала, зусім не дбаючы пра таямніцы свайго «каралеўства». Яе ж «падданыя» тым часам... хлынулі да кавалкаў хлеба: адна плойма рыбак, другая, трэцяя! Яны, вёрткія, былі цяпер добра бачныя ў промнях паўдзённага сонца!

— Колькі ж іх тут?! — схапілася за шчокі Каця.

Плямістая «каралева» нарэшце прачнулася і таксама рынулася ў гушчу падзей. Яна кідалася то да аднаго, то да другога кавалка, якія шчыпалі-разрывалі плоймы маленькіх рыбак. Сама ж яна, хоць плач, не магла скумекаць, што адбываецца ў яе «каралеўстве»! Што за пір?

— Слухай, Цімка, дык яна ж і нас таксама не бачыць, бо мы нерухомыя!

— Таму й не з’есць! — суцешыў сястру брат.




Каця падкурчыла адну нагу і засталася стаяць на другой, нібы той бусел, што час ад часу таксама наведваецца да іх сажалкі:

— І наша «каралева» не бачыць маёй чырвонай у белы гарох сукенкі?..

— На шчасце, — пакпіў брат, — а то атрымала б разрыў сэрца ад зайздрасці.

— Рыбкі мае, рыбкі... — пачулася ад суседняй сажалкі.

— Дзядзька Шурка ўчора казаў, — чамусьці шэптам пачала Каця, — што рыбы чуюць голас бабулі Дароты і плывуць яшчэ да таго, як яна кіне ім ежу.

— Ды ну? — здзівіўся і задумаўся Цімка: — Значыць, гэткае можа быць... Нам сястра Гэлена расказвала на занятках па рэлігіі, што святы Антоні з Падуі казаў некалі казанне рыбам, і яны слухалі яго... Я не мог паверыць...

— А цяпер паверыў? — засмяялася сястра. — Ты ж Цімка, а не Фомка! — і Каця панеслася па чарговую порцыю корму — толькі замільгала яе чырвоная сукенка сярод кустоў парэчак.

— ...Рыбкі мае, рыбкі, — прамовіў Цімка зусім як баба Дарота альбо як калісьці святы Антоні, — рыбкі мае, рыбкі...



*Мастак — Вольга Чарняўская.*





## Як трэба?

Добры дзень, паважаная рэдакцыя!

Хачу расказаць вам пра адзін выпадак, які здарыўся з маім сябрам. Аднойчы ён купіў жабраку, які стаяў каля крамы і прасіў міласціны, хлеба, кефіру і яшчэ чагосьці. Мама яму казала, каб не даваў грошай жабракам, бо яны могуць іх прапіць. Лепш купіць штосьці і даць. Дык ён і купіў. А калі аддаваў яму пакет, той узяў яго за руку і прытуліў да шчакі. Гэтак ён дзякаваў майму сябру. Прахожыя пачалі сварыцца на яго, што ён брудны, а можа і хворы на што-небудзь, чапае дзіця. Жабрак адвярнуўся і пайшоў прэч. Мой сябар папрасіў мяне, каб я не расказваў пра гэтае здарэнне ягоным бацькам, бо яны могуць таксама насварыцца. А як трэба было яму зрабіць?

*Валяр'ян, Мінск*





## Добрае сэрца

Дарагі Валяр'ян!

Гігіена, вядома, рэч сур'ёзная. Яе правілы трэба заўсёды выконваць. Але здараюцца сітуацыі, напрыклад, як з тваім сябрам, калі мы робім штосьці больш важнае. Падаць руку чалавеку — гэта прыгожы рух душы. Я рады, што ты, Валяр'ян, маеш такога добрага сябра. Перадай яму ад мяне прывітанне і скажы, што ён мае добрае сэрца. Павер: гэта важней за выканне правілаў гігіены. А рукі, вядома, трэба мыць часта. З мылам!

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# Малая пчала робіць важную справу

## (Летні ўспамін)

**Калі правільна адгадаеш крыжаванку, прачытаеш назву вельмі старажытнай і высакароднай прафесіі.**

1. Спеў на літургіі.
2. На ім Езус плаваў з вучнямі.
3. Адзін з апосталаў.
4. Евангеліст.
5. Рака на Святой Зямлі.
6. Яна плакала над сваімі дзецьмі ў Раме.

2

| | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|
| 1 | | | | | |
| 2 | | | | | |
| 3 | | | | | |
| 4 | | | | | |
| 5 | | | | | |
| 6 | | | | | |

Аднаго хлопчыка ўджаліла пчала. Ён раззлаваўся і пачаў марыць пра тое, каб усе пчолы зніклі з зямнога шару. Ён нават пачаў маліцца і прасіць аб гэтым Бога. Аднойчы, калі ён пайшоў спаць, яму прыснілася наступнае: вялікі пажар на пасецы, падчас якога згарэлі ўсе пчолы. Калі прыйшло лета, не было ніводной пчалы і ніхто не апыліў на лузе кветкі і кветкі пладаносных дрэваў. Таму ўвосень не было гародніны, яблыкаў, грушаў і нават сліваў. Жывёлам і людзям не хапала ежы. Хлопчык прачнуўся ўвесь у поце і зразумеў, што маліцца аб тым, каб зніклі пчолы, нельга. Бо пчолка хоць і маленькае стварэнне, але дзякуючы ёй падтрымліваецца парадак на зямлі.



У гэтым годзе адбыўся Першы рэспубліканскі конкурс юных пчаляроў у Смілавіцкім аграрным каледжы. У ім прынялі ўдзел 13 падлеткаў, ад 12-ці да 16-ці гадоў. Пераможцамі сталі Віктар Бялоў, Аляксандр Скараходаў і Наталля Беймалі.

Ксёндз Уладзіслаў Завальнюк — капелан пчаляроў і член журы конкурсу, вітаючы яго ўдзельнікаў, між іншым, сказаў: «Не будзе прыроды, не будзе здароўя, калі не будзе пчол. У Святым Пісанні пчала часта ўспамінаецца, напрыклад, у кнізе Сіраха, дзе сказана, што пчала, хоць і малая, але прыносіць плод найлепшы са слодычаў. Свет пчалы — вельмі таямнічы і цікавы».

Міхаіл Сухарукаў, самы малодшы, васьмігадовы ўдзельнік конкурсу, сказаў, што ён дапамае бацьку ў працы з пчоламі. І гэта вельмі добра, бо калі хлопчык вырасце, будзе ўжо шмат чаго ўмець, будзе ведаць, як трэба абыходзіцца з пчоламі.





***А цяпер некалькі парадаў ад юных пчаляроў:***

- **калі ты бачыш пчалу, не махай рукамі, а стой ціха і спакойна, тады яна цябе не ўджаліць;**
- пчала часта рэагуе на парфуму, таму, ідучы на луг, не трэба яе ўжываць, каб не раздражніць пчолаў;
- **мёд — адзін з самых карысных натуральных прадуктаў, ён — найлепшая альтэрнатыва цукру, бо не выклікае карыесу, утрымлівае вялікую колькасць вітамінаў, фоліевай кіслаты, калію і інш. карысных элементаў;**
- мёд дапамагае ад многіх хваробаў: прастуды, захворванняў кішэчніка, цукровага дыябету, малакроўя, супакойвае нервовую сістэму;
- **на святочным стале для дзяцей заўсёды павінны быць фрукты, гародніна, арэхі, разынкі, курага, зялёныя салаты і, вядома ж, мёд!**

*Падрыхтавала*
*Людміла Бурлевіч.*



# САМАЯ ВАЖНАЯ СУСТРЭЧА

## *Эўхарыстычная малітва*

**...Гэта чыніце на Маю памяць.**

Лк,22,19б

Яна пачынаецца словамі святара:
— Пан з вамі...
— І з духам тваім, — адказваем мы.
— Падзякуем Пану Богу нашаму, — працягвае дыялог святар.
— Годна гэта і справядліва, — адказваем мы.





Далей ідзе малітва падзякі — прэфацыя, якая завяршаецца ўрачыстым агульным гімнам:

Святы,
Святы,
Святы...





У часе Эўхарыстычнай малітвы мы становімся на калені — ушаноўваем чын перамянення хлеба і віна ў Цела і Кроў Хрыста, якое адбываецца падчас словаў святара.

Гэтая малітва — успамін пра тое, што адбылося ў часе Апошняй Вячэры, калі Езус падзяліўся Целам і Крывёю з вучнямі, наказаўшы праз іх рабіць тое ж самае і ўсім нам. Гэтая вялікая таямніца веры трывае ўжо амаль дзве тысячы гадоў і будзе трываць вечна.



*Сябры! Калі ў вас узнікаюць пытанні на тэму святой Імшы і таго, што на ёй адбываецца, то наш эксперт, ксёндз... (няхай ягонае імя застанецца пакуль што таямніцай) з радасцю адкажа вам. Пытайцеся! Не лянуйцеся!*



# ЗАГАДКІ З БІБЛІІ

6

Сябры! Паколькі кастрычнік — гэта ружанцовы месяц, то нашы чарговыя пытанні тычацца падзеяў, звязаных з ім. Але ж гэта зусім не азначае, што пытанні будуць далёкія ад Святога Пісання.

- Чаму Ружанец часам называюць зместам Евангелля?
- Знайдзіце ў Евангеллі месца, дзе апісваюцца падзеі трэцяй таямніцы першай часткі Ружанца. Напішыце назву таямніцы і яе «адрас» з Евангелля.
- У які дзень у Касцёле асабліва ўрачыста святкуецца падзея чацвёртай таямніцы першай часткі Ружанца? Паспрабуйце выказаць гэта ў малюнку.
- Хто дадаў да Ружанца таямніцы святла? Намалюйце хоць адну падзею з гэтай часткі Ружанца.
- *Езу! У Садзе знемагаеш,*
  *Пот крывавы праліваеш...»*
  Пра якую падзею Евангелля спяваецца ў гэтай песні? Якая ружанцовая таямніца адлюстроўвае яе?
- Назавіце апошнюю частку святога Ружанца. Як вы думаеце, чаму яна так называецца?
- У гонар якой гістарычнай падзеі было ўстаноўлена свята Маці Божай Ружанцовай?

### Адказы на **«Загадкі з Евангелля», змешчаныя ў № 2 за 2014 г.**

Майсею; Арханёл Габрыэль; «Не ўжывай імя Пана Бога твайго дарэмна» (Зых 20, 7); Ойча наш...; такіх песень шмат, напрыклад, вось гэта:

Слаўце Пана, народы.
Праслаўляйце, плямёны,
Бо вялікая ласка над намі!
Хай Імя Яго славяць у танцах.
На тымпанах і арфе хай граюць,
Бо любоў Пана Бога над намі —
Пакорны ўсіх пераможа.

Ён збавіць народ свой ад грахоў ягоных; у Літаніі да Найсвяцейшага Імені Езуса.

Узнагароды за правільныя адказы атрымаюць **Яна Сянько** і **Аляксей Томкавіч** з Вілейкі, а таксама **Маргарыта Ясэпкіна** з Полацка. Жадаем усім поспехаў. Дарэчы, звярніце ўвагу і на цікавыя загадкі на іншых старонках нашага часопіса.



Сябры!

З гэтага нумара мы будзем па-новаму вызначаць пераможцаў нашых заданняў.

Вы бачыце, што каля кожнай загадкі змешчаны рознакаляровыя зорачкі з пазначанымі ў іх колькасцю балаў. За кожнае заданне будзе прызначацца пэўная колькасць. Той, хто набярэ найбольш балаў, і стане пераможцам. Не забывайце зірнуць і на іншыя старонкі часопіса — магчыма, там таксама ёсць заданні з зорачкамі.

Вынікі тэматычных конкурсаў, як, напрыклад, конкурсу «Мая малітва», будуць падводзіцца асобна.

*Маленькі рыцар Беззаганнай*

# Крыжаванкі

## «Матэматыка» Марыйных святаў

5

Замест назвы Марыйнага свята запішы дзень месяца, у які мы яго святкуем. Напрыклад, калі б была Урачыстасць Божага Нараджэння, то трэба было б напісаць 25, бо яна адзначаецца 25 снежня.

| | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| Звеставанне Пана | + | Маці Божай Ружанцовай | – | Беззаганнага Зачацця НПМ | = | ? |
| Маці Божай з Люрда | + | Нараджэнне НПМ | – | Маці Божай Будслаўскай | = | ? |
| Ахвяраванне НПМ | – | Маці Божай Фацімскай | + | Найсвяцейшага Імя Марыі | = | ? |
| Святой Багародзіцы Марыі | + | Адведзіны НПМ | – | НПМ з гары Кармэль | = | ? |
| Маці Божай Браслаўскай | – | Маці Божай Каралевы | + | Маці Божай Вастрабрамскай | = | ? |
| Маці Божай Лагішынскай | – | Унебаўзяцця НПМ | + | Маці Божай Чанстахоўскай | = | ? |

1

## РЭБУС

Калі разгадаеш гэты рэбус, то прачытаеш імя кагосьці вельмі блізкага нам.









# Прыгоды ксяндза Лявона

## Як папросіш

Самае непрыемнае для ксяндза Лявона – калі трэба прасіць у парафіянаў грошай. Уговорвае ён тады сябе, угаворвае, што, маўляў, не для сябе ж, а для касцёла, для парафіі... Намучаецца, бедны, пакуль адважыцца выціснуць з сябе людзям пра чарговую патрэбу! На гэты ж раз думаў-думаў ды зрабіў аб'яву адразу з прапановай:

– Ці чулі вы, – запытаў у нядзелю з амбоны, – што ў лесе грыбы сыпанулі?

Людзі пераглянуліся ды загулі: ведаем, чулі, як жа ж...

– А ці ведаеце, што іх можна здаваць на кансервавы завод і зарабляць на гэтым немалыя грошы?

Парафіяне прыціхлі – куды гэта ксёндз хіліць?

– Вось і падумаў я: калі б мы ўсёй парафіяй з кошыкамі ў лес пайшлі, то, можа б, за выручаныя грошы і ганак у касцёле адрамантавалі, а то на тых прыступках ужо цяпер спатыкаемся, а што зімой будзе?..

І рушылі: хто маладзейшы – у лес, а хто старэйшы ды з хворымі нагамі, той перабіраць грыбы ўзяўся, а то й сушыць баравікі, бо сушаныя яшчэ выгадней здаваць. Калі ж у сваім лесе занадта людна зрабілася, пайшлі-паехалі далей. Адрамантавалі не толькі прыступкі, але й дарожку, і прыступкі пры браме, яшчэ трохі й у запас засталося.

Заканчэнне грыбной пары́ святкавалі ўсёй парафіяй ды з пірагамі. І якая ж радасць была, калі на тую гасціну завітаў мясцовы прадпрымальнік Антон Садоўскі, які прывёз некалькі невысокіх зграбных ліхтароў у выглядзе грыбоў:

– Помнік нашай дзейнасці прывёз! Паабапал новай дарожкі паставім, каб ніхто ўвечары альбо раніцой не спатыкнуўся!..

Прыгоду запісала І. Ж.

*Малюнак Ангеліны Сержан, 14 гадоў.*





# Галерэйка



"Наш Валадар". Яна Сікорская, г.п. Астравец.



"Хто не працуе, той не есць". Кірыл Шляхтовіч, г.п. Астравец.



"Мы – дзеці Божыя". Віка Мушатэнка, г. Браслаў.



"Навальніца". Уладзік Жук, г. Браслаў.



"Крыжовы шлях". Максім Ярмак, 8 гадоў, г.п. Астравец.

У афармленні матэрыялаў нумара прымалі ўдзел юныя мастакі з ДУА «Гімназія-каледж мастацтваў імя І. В. Ахрэмчыка» (майстэрня Г. Хінкі-Янушкевіч).



*Малюнак Вольгі Важнік, 14 гадоў.*